© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

Чытайце ў нумары: Не пазбягайма адзіноцтва | Ёсць дзе павучыцца | Чырвоныя ваўкі

В. Леўчук: НАША ШКОЛА — ЮБІЛЕЙНЫ РЭПАРТАЖ З БЕЛЬСКА.
С. Яновіч: ШТО ПЛАНУЕЦЕ НОВАГА Ў НОВЫМ ГОДЗЕ? (Інтэрв'ю-маланка).





# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 52 (461) | ГОД IX | 27 СНЕЖНЯ | ЦАНА 60 гр.


Інтэрв'ю Дваццаціголдзя



Нашым заданнем паказаць сапраўднае мастацтва. Фота — І. Рыбінскі

# СЕЙЦЕ ПРЫГОЖАЕ

Беласточчына цяпер — гэта ў многім твор зусім новы, створаны 20-цю гадамі народнай улады. Гэта асабліва датычыць нашай культуры. Тут, як нідзе, бачым тое новае, што пусціла парасткі ў жыватворчай атмасферы першых год пасля вызвалення і ў далейшым вырасла ў культурныя цэнтры. Да такіх выключных дасягненняў Беласточчыны Дваццацігоддзя трэба залічыць мастацтва. З некалькімі пытаннямі на гэтую тэму звярнаемся да старшыні Беластоцкай акругі Саюза польскіх мастакоў **ТАДЭУША БОЛАЗА.** Так шчасліва складаецца, што Тадэуш Болаз належыць да першых арганізатараў і творцаў Беластоцкага мастацкага асяроддзя і гісторыю яго ведае добра.

**— А яна?**

— Мы пачыналі ад таго, што ў тыя бурныя гады было найважнейшым — прапаганды. 12 асоб, якія тады сабраліся ў Беластоку, змабілізавалі свае сілы для новай улады. Былі гэта цікавыя і працавітыя, надзейныя дні. Наша невялікая група першая ў краіне ўжо ў 1946 годзе пачала арганізаваць аб'язныя выстаўкі па гарадах, а нават вёсках. Выстаўкі не былі арыгінальнымі працамі, гаварылі аднак аб новай уладзе, новым правe, новым парадку. Мы збіралі для іх матэрыялы, мы іх рыхтавалі, мы былі пры выбарах, мы былі ў вёсках, нам пагражалі за «чырвоную прапаганду». Вораг нас дацэньваў па-свойму, але і народная ўлада таксама. У 1946 годзе мы падрыхтавалі першую вялікую выстаўку, аб тым, чаго дасягнула Беласточчына за год народнай улады. Гэты ж год даў таксама Беластоку мастацкую школу, потым пераіменаваны на ліцэй.

(Працяг на стар. 4)

Вышэйшыя сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы нашай краіны выпусцілі дагэтуль, як ужо падавала «Ніва», каля 40-ка тысяч спецыялістаў знатакоў хлебаробніцкай прадукцыі. Армія вялікая. Яна вельмі патрэбная ў ПГР-ах, спулдзельнях прадукцыйных, вясковых аграномаўках, асабліва ў нас на Беласточчыне. Узрост ураджайнасці перш за ўсё залежыць цяпер ад умелага выкарыстання ўсёй тэхнікі і шматлікіх хімічных сродкаў. Дзе ж бы там звычайнаму гаспадару разабрацца ва ўсіх гэтых хімікатах, ва ўсіх гэтых назвах, ад якіх аж ломіцца язык! Зусім слушна гаспадар чакае на дапамогу спецыялістаў. інжынераў сельскай гаспадаркі.

# Спецыялісты

Яны аднак... Ведаем, чулі ўжо не адзін раз.

Так, праблема сур'ёзная, на столькі нават сур'ёзная, што заняўся ёю Савет Міністраў нашай краіны. 15-га мая 1963 г. выдаў ён нават спецыяльную пастанову. Ажыццяўляецца яна ўжо звыш паўгода часу. Якія вынікі?

Інфармуе нас кіраўнік аддзялення персанальных спраў пры Сельскагаспадарчым аддзеле Прэзідыума ВРН у Беластоку тав. Гіляры Хамярлінскі.

— Акцыя, якая праходзіла пад лозунгам: «Спецыялісты — да сельскай гаспадаркі!», не прынесла ў нас спадзяваных вынікаў, — сцвярджае ён. — Знялі мы з працы ў розных другіх прадпрыемствах і ўстановах і накіравалі працаваць у галіне сельскай гаспадаркі ўсяго ледзь 51 асобу, сярод якіх знайшлося толькі 12 выпускнікоў з дыпломамі вышэйшых навучальных устаноў.

**Сапраўды, вынікі скромныя, калі ўзяць пад увагу, што Беластоцкае ваяводства патрабуе яшчэ 960 спецыялістаў сельскай гаспадаркі з вышэйшай адукацыяй і каля 2500 з сярэдняй адукацыяй. Столькі свабодных месц чакае на выпускнікоў сельскагаспадарчых школ.**

Дзе? Не, не думайце, што ў горадзе. Сельскагаспадарчая адміністрацыя ў ваяводстве і ва ўсіх паветах ужо дастаткова насычана спецыялістамі, больш іх не патрабуе. **На спецыялістаў чакаюць вёскі і ПГР-ы.**

Чаму тады аж так скромныя вынікі акцыі: «Спецыялісты — да сельскай гаспадаркі!»?

— Прычыны бываюць, як заўсёды, розныя, — паясняе кіраўнік Хамярлінскі. — Найчасцей, аднак, гэта тое, што людзі засядзеліся ўжо на старым месцы працы, пажаніліся, маюць памяшканні, залажылі сем'і, звязаліся сотнямі нітак з горадам і сваім прадпрыемствам, часам з іхняй сельскагаспадарчай адукацыі застаўся толькі дыплом.

(Працяг на стар 5)




# ПЯСНЯР БЕЛАРУСКАЙ ПРЫРОДЫ

**«НІВА» Ў ГАСЦЯХ У ТЫТУСА КАРПОВІЧА**

Так называюць Тытуса Карповіча тыя, якім давялося разам з ім як добрым, надзейным правадніком адбываць падарожжы па прывабных лясных закутках Беларусі. Кнігі польскага пісьменніка не толькі незабыўная прыгода, але і павучальныя старонкі цікавага жыцця прыроды, дзе пануюць свае законы і звычаі. З дзяцінства пачаў іх пазнаваць гэты сын вёскі. Аднак вывучыў асабліва тады, калі лясныя прасторы сталіся яго другім домам, у гады партызаншчыны. У той цяжкі час выпрабаванняў і нягод трэба было ведаць норавы лясной прыроды, каб зліцца з ёю, стацца непрыкметным для ворага. Здаралася, што часам цэлымі гадзінамі, назіраючы за ім з нейкага патайнога месца, вока падмячала ў лесе тое, што не так часта даводзіцца бачыць чалавеку. Гэтую своеасаблівую адукацыю Тытуса Карповіча папаўнялі беларускія паляўнічыя, аб якіх з вялікай удзячнасцю ўспамінае ва ўступе да кнігі «Балабушка — залаты ліст». Ім і прысвячае свой раман.

«У знак пашаны бацькам. Памяці беларускіх следапытаў і паляўнічых, загінуўшых у час вайны ў абароне свабоды. І памяці Ілюкаў — Янкі і Station Станіславы з Кемялішак, перад хатай каторых часта адпачываў пасля блуканняў праз беларускія лясы», — чытаем мы на пачатку кнігі.

Тытус Карповіч і зараз пражывае ў лясной аколіцы, на Вроцлаўшчыне, дзе мы яго і адшукалі. Пісьменнік быў усхваляваны, што зацікавіўся ім бе-

(Працяг на стар. 5)



БЕЛАВЕЖА. Фота Рагазінскі

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## Для прыгажосці жанчын

Сярод шматлікіх кааператываў у Беластоку ёсць спулдзельня «Взорцова». Яе спецыяльнасць — жаночыя гарсэты. У нашай краіне кожная трэцяя жанчына носіць гарсэт вырабу спулдзельні «Взорцова», ды не толькі ў нашай краіне. Вырабы гэтай спулдзельні экспартныя фірмы высылаюць у Савецкі Саюз, Чэхаславакію і ў ГДР. Штомесяц спулдзельня «Взорцова» выпускае на рынак 120 тысяч штук гарсэтаў, вартасць якіх сягае 3 мільёнаў злотых. Вырабы яе адзначаюцца высокай якасцю, што нават афіцыйна было сцверджана вясною на кірмашы ў Познані Міністэрствам унутранага гандлю. Адзін з філіялаў спулдзельні знаходзіцца ў Заблудаве. Працуе там 100 работніц. (вр)

### У дапамогу настаўнікам

## НАВУЧАННЕ РУСКАЙ МОВЫ Ў ПЯТЫМ КЛАСЕ ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ

**(Метадычная кансультацыя)**
**Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.**

3. Урокі рускай мовы павінны праводзіцца ў рускай моўнай атмасферы. Гэта значыць, што яны павінны весціся на рускай мове. Настаўнік увесь час гаворыць з вучнямі па-руску і вучні адказваюць, ставяць пытанні і звяртаюцца да настаўніка і да сваіх сяброў таксама на рускай мове. Мова настаўніка мусіць быць прыстасавана да актуальных ведаў вучня, а кожны яе незразумелы элемент мае быць выяснен на рускай мове (калі ёсць ужо да гэтага моўныя ўмовы вучняў) або на беларускай мове. Мова — гэта звычка. У сувязі з тым вучым яе і замацоўваем веды перад усім на ўроку. Хатнюю работу даем толькі такую, якая б замацоўвала толькі гэтую звычку ў гутарцы, чытанні і на пісьме. Таму яна не павінна дапускаць такіх прац, якія б даводзілі да памылак вучня. Усё, што запісана вучнем у яго сшытку, неабходна праверыць, паправіць, ацаніць, загадаць зрабіць «Исправление ошибок», а потым і гэтае выпраўленне паправіць і ацаніць (больш сурова і катэгарычна). З мэтай аблягчыць сабе працу, трэба ўвесці два аднолькавыя паралельныя сшыткі ў вучняў, якія яны заўсёды будуць насіць з сабой у школу. Калі адны з іх вы забіраеце для праверкі, вучні пішуць у другіх. Пасля звароту першых вучні робяць выпраўленне памылак у іх і не пішуць у іх да той пары, пакуль вы не возьмеце выпраўляць другіх і г. д. Праверка сшыткаў мусіць быць частай, каб па меры магчымасці па свежых слядах выпраўляць памылкі вучняў. У слабейшых вучняў сшыткі правяраем часцей. Трэба імкнуцца да таго, каб наш урок быў праведзен наступным чынам: 1) звязное апавяданне настаўніка, у якім новыя словы і звароты будуць падкрэслены і выяснены, 2) гутарка ў форме пытанняў і адказаў з вучнямі з ужыццём новых слоў і зваротаў і матэрыялу з папярэдніх урокаў, 3) прыкладнае чытанне настаўніка (калі ўрок вядзецца па матэрыялу чытанкі), у часе якога вучні сочаць за тэкстам і падкрэсліваюць алоўкам незразумелыя словы і звароты, 4) выясненне незразумелага, 5) практыкаванне ў чытанні саміх вучняў з чулым выпраўленнем іх памылак, 6) на заканчэнне чытанне найлепшага вучня або настаўніка, 7) запісванне на дошцы і ў сшытках сказаў з новымі словамі і зваротамі, 8) на іх матэрыяле выясненне новага граматычнага матэрыялу, замацаванне яго, 9) выясненне хатняй працы. Для замацавання новага матэрыялу і наогул для развіцця мовы вучня як мага часцей звяртаемся да індывідуальных і харавых паўтарэнняў пытанняў, адказаў, зваротаў. І праверку хатняй работы і апытанне праводзім пры «гутарцы ў форме пытанняў і адказаў з вучнямі з ужыццём новых слоў і зваротаў і матэрыялу з папярэдніх урокаў». Калі задана дамоў навучыцца чытаць або чытаць і расказваць, правяраем заданне на пачатку ўрока, перад увядзеннем у новы матэрыял. У часе ўсёй навукі неабходна як мага часцей звяртацца да паўтарэння засвоенага матэрыялу не ў форме апытання слоў і іх значэнняў, але ў форме пастаноўкі пытанняў вучнямі і адказаў іх сяброў з ужыццём гэтых слоў і зваротаў. Граматычны і арфаграфічны матэрыял выясняем, спасылаючыся на падабенства або на розніцу яго з адпаведным матэрыялам у беларускай або польскай мовах (у залежнасці ў якой мове ён ім ужо вядомы). Значыць, кожны новы ўрок мы павінны прадумаць перад тым, як увайсці ў клас. Правесці яго так, каб вучні вынеслі з яго новыя веды на базе замацаваных ранейшых ведаў. Кожны ўрок — гэта крок наперад ва ўменні валодання вучнямі жывой гутарковай рускай мовай, правільным чытанні і пісьме.

Кіраўнік секцыі рускай мовы
Акруговага Метадычнага Цэнтра
ў Беластоку

мгр **МІКАЛАЙ ГАЙДУК**



## З'ЕЗД КАРЭСПАНДЭНТАЎ „НІВЫ"

**13** снежня адбыўся з'езд карэспандэнтаў «Нівы». Член рэдакцыйнай калегіі Міхась Хмялеўскі меў даклад аб супрацоўніцтве карэспандэнтаў з рэдакцыяй нашага тыднёвіка. Дакладчык асаблівую ўвагу прысвяціў справе пашырэння і паглыблення тэматыкі пісаных карэспандэнцый, павышэння пачуцця адказнасці за тое, што пішацца. Наш чытач не церпіць павярхоўных, недакладных інфармацый, што сведчыць аб яго сур'ёзным стаўленні да друкаванага слова.

У сувязі з дакладам рэд. М. Хмялеўскага адбылася дыскусія. Выступалі — Аляксандр Грыц і Янка Цялушэцкі са Старога Ляўкова, мгр Мікалай Гайдук з Бельска, Васіль Дзун з Гайнаўкі, Уладзімір Хомік са Слоі, Мікалай Панфілюк з Дубіч Царкоўных і інш. Карэспандэнты выказалі меркаванні наконт сваёй працы. Напрыклад, Янка Цялушэцкі са Старога Ляўкова ў сваім выступленні ў дыскусіі накрэсліў вельмі істотную карэспандэнтам справу ўмення назіраць жыццё вёскі, аколіцы — цікавых і характэрных з'яў гэтага жыцця. У ляўкоўскай аколіцы ёсць некалькі карэспандэнтаў «Нівы». Кожны з іх бачыць жыццё па-свойму, знаходзіць у ім нешта вартае, каб напісаць у «Ніву», падзяліцца з чытачамі. Цікавым ёсць не толькі новапабудаваная школа ці крама, але і добры гаспадар ці вясковы актывіст. Вядома, найлягчэй напісаць пахвалу, аднак чытач шукае ў газеце, перад усім, таго, як і якімі спосабамі той добры гаспадар дабіўся добрых вынікаў у сваёй гаспадарцы — якім чынам актывіст праводзіць з поспехам карысную дзейнасць і т. п.

Як бачым, дыскусія праходзіла ў атмасферы канкрэтнай размовы аб тым, як павінен працаваць карэспандэнт, як сабіраць і апрацоўваць цікавыя, карысныя матэрыялы.

Галоўны рэдактар «Нівы» Георгій Валкавыцкі ўручыў узнагароды для шаснаццаці найбольш актыўных карэспандэнтаў — м. ін. камплекты тэчак з даўгапісамі атрымалі: Міхась Тэлешэўскі з Рэпіскаў, Язэп Козак з Гайнаўкі, Сяргей Крэйза з Мілейчыц, Лёня Леанюк з Плёскаў і Яўгень Рэент з Міхнаўкі. (ся)

Фота — В. Рудчык



Аснова карэспандэнтаў «Нівы» — моладзь. Яна пераважала і на з'ездзе.



Узнагароду за актыўнае супрацоўніцтва атрымлівае карэспандэнт Язэп Козак (справа).



На заканчэнне — сямейны здымак.

**трэба сказаць аб тыражах паасобных газет. Цэнтральныя газеты рэспубліканскага значэння друкуюць вялікія тыражы перавышаючыя часам 150 тысяч экземпляраў. Абласныя газеты друкуюць ад 35 да 70 тысяч экземпляраў. Гарадскія газеты друкуюць звыш 30 000 экземпляраў. Раённыя газеты друкуюць ад 10 000 да 12 000 экз., газеты мясцовага значэння — адну тысячу экз. як мінімум, паасобныя назвы, дасягаюць, аднак, чатырох тысяч і нават больш экземпляраў. Так, напрыклад, газеты тыпу «Ленінскага закліку» (Орша) перавышаюць сем тысяч экземпляраў!**

**Газеты друкуюцца ў асноўным двума фарматамі: рэспубліканскія і абласныя газеты (а таксама гарадскія) фарматам польскай газеты «Трыбуна Люду», а раённыя і калгасныя фарматам нашай «Нівы». Рэспубліканскія, абласныя, гарадскія — выходзяць штодзённа, раённыя і калгасныя выходзяць у колькасці ад 104 да 160 нумароў у год.**

**Сярод часопісаў мы сустракаем органы як найбольш разнастайнага зместу. Кожны з іх абслугоўвае запыты акрэсленай групы чытачоў. Тут і выданні прызначаныя для масавага чытача і выданні пакліканыя публікаваць навуковыя матэрыялы прызначаныя для вучоных і спецыялістаў, якія працуюць у той або іншай галіне навукі.**

**Паміж беларускіх выданняў гэтага тыпу мы сустракаем і «Навуковыя запіскі Брэсцкага педагагічнага інстытута» і «Працы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа», і «Весткі Акадэміі навук Беларускай ССР» і «Вучоныя запіскі» шэрагу навуковых устаноў, якія выдаюць у Гродне, Мінску, Віцебску, Мозыру, Полацку, Магілёве...**

**Часопісны тып агульнасаюзнага «Аганька» ў беларускім друку прадстаўлены масавым ілюстраваным часопісам «Беларусь». Гэты літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс з'яўляецца органам Саюза пісьменнікаў БССР. Друкуецца ад 1944 года. На працягу дваццаці год ён больш чым у тры разы павялічыў свой тыраж. Гэты часопіс карыстаецца вялікім поспехам не толькі на Беларусі, але і за граніцай.**

**Агульнапапулярны сатырычны і гумарыстычны часопіс «Вожык», заснаваны ў ліпені 1941 года, давёў свой тыраж да 43 000 экземпляраў (даныя 1960 г.).**

**Да масавых часопісаў адносяцца «Работніца і сялянка», — якая дасягае каля 220 000 экземпляраў (Выданне ЦК КПБ). «Полымя» — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Саюза пісьменнікаў БССР. Заснаваны ў 1922 г. Тыраж часопіса, з прычыны яго характару, невялікі — 8 000 экз.**

**Цікавы часопіс «Калгаснік Беларусі». Для піянераў выдаецца часопіс ЦК ЛКСМБ — «Вясёлка» і часопіс «Бярозка». Цікавыя альманахі, якія выходзяць у паасобных гарадах: «БРЭСТ» (у Брэсце), «ДЗВІНА» (Віцебск), «НАРАЧ» (Маладзечна) і іншыя.**

**Панцеляймон ЮР'ЕЎ**

## КІНАТЭХНІКА

8 снежня ў Беластоку ў Доме Тэхніка была адкрыта краёвая кінатэхнічная выстаўка. Бачым тут увесь багаты арсенал розных прылад, патрэбных у працэсе прадукцыі фільмаў.

Некалькі цікаўнасцей. Прадукцыя кінатэхнічных прыладаў не існавала ў Польшчы да вайны. А цяпер амаль усё патрэбнае робім у сябе і яшчэ прадаем за граніцу ў 30 краін свету.

Некаторыя з важнейшых нашых фабрык кінатэхнічных прылад — гэта Лодзінская кінатэхнічная фабрыка, Варшаўская фабрыка «Спефіка».

Першае Ваяводскае праўленне кіно пасля вызвалення паўстала ў Беластоку і цяпер святкуе сваё 20-годдзе. Між іншым гэта было штуршком для арганізавання выстаўкі.

У Беласток прыедуць зацікаўленыя прадстаўнікі з краін, у якія экспартуем свае прылады. Ходзяць слухі, што выстаўка можа стацца базісам для міжнароднай кінатэхнічнай ярмаркі ў Беластоку.

У Польшчы маем цяпер звыш 4 100 кіно, у гэтым 1 500 у гарадах і 2 200 у вёсках, дзе да вайны не мелі мы ніводнага, да гэтага яшчэ 400 кіно аб'язных.

Маем тры кінастудыі: у Лодзі, Бельска-Белай і Варшаве. І кінастудыя дакументальных фільмаў у Варшаве, 1 — асветных фільмаў у Лодзі. (вл)



© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

